НАША НІВА

*Беларуская газэта*

***Вільня №11. 1993***

**ПАВАЛ ЦЕРАШКОВІЧ** На матэрыяле прыказак і прымавак аўтар робіць далёкасяжныя высновы пра традыцыйныя адносіны беларусаў да расейцаў, палякоў, жыдоў, татараў, цыганоў...

**НУМАР ДЭБЮТАЎ** Сталы чытач ведае, што ў «Нашай Ніве» друкуюцца пераважна прафэсійныя аўтары з пэўным досьведам літаратурнае працы. Гэты нумар — выключэньне. У' ім Рэдакцыя зьмяшчае тры дэбюты нікому пакуль не вядомых маладых аўтараў — вершы Алега Хацкевіча, пераклад Юрася Бушлякова і эсэ Сяргея Шыдлоўскага.

**БІБЛІЯТЭКА** Нарэшце «Наша Ніва» пачынае публікаваць рэцэнзіі на новыя кнігі. У гэтым нумары — агляд апошніх выданьняў В.Быкава, Г.Галенчанкі, Я.Юхо і Л.Дранько-Майсюка.

# Віленскі клюб



**Апавяданьне**

## ВАХЦЁР

Невядомы Аўтар

***Пасьля публікацыі ў восьмым нумары «НН» апавяданьня невядомага аўтара «Экспэдыцыя» Рэдакцыя атрымала некалькі лістоў ад розных літаратараў з прэтэнзіяй на аўтарства гэтага твору. Як правіла, разам з прэтэнзіяй нам дасылаюць і новыя тэксты — ці то як доказ, ці проста так. А нехта Кастусь Гаманец даслаў нам свае вершы, якія праз тыдзень надрукавала іншае выданьне (?!). З усяго дасланага мы адабралі толькі адно апавяданьне, якое паводле некаторых прыкметаў можа належаць аўтару «Экспэдыцыі». Але, паколькі ў нас няма ніякіх доказаў, што гэта сапраўды той самы літаратар, і паколькі ён хутчэй за ўсё той самы, мы пакідаем той самы подпіс — Невядомы Аўтар.***

30 гадоў! 30 гадоў аддадзеныя гэтай працы. Ён, як звольніўся з войска, адразу ўладкаваўся на прадпрыемства. Вахцёрам. І вось з тае пары мінула 30 гадоў.

Цяпер усё ня так, як раней. Усё зьмянілася. Раней час быў больш трывалы, спакайнейшы. Быў размеркаваны рытм жыцьця. А цяпер гэты рытм разьдзёрты, няроўны. Вакол усе крычаць, нэрвуюцца, лаюць урад... Гармідар, далібог!

Але праца застаецца працай. Хаця й тут цяпер ня ўсё ў парадку. Раней цераз прахадную хадзілі, акрамя супрацоўнікаў прадпрыемства, мажныя салідныя людзі з партфэлямі. Плашчы, капелюшы — усё, як належыць. Яны выпісвалі сабе прапускі, альбо тэлефанавалі зь ягонага, вахцёрскага тэлефону да дырэктара. І дырэктар тады загадваў Вахцёру: прапусьціць Івана Фёдаравіча ці там Пятра Сьцяпанавіча...

Цяпер жа пачалі цягацца немаведама хто. Панаўтваралі на прадпрыемстве нейкіх драмгурткоў, ансамбляў ці аркестраў ды розных іншых навамодных штучак. І лезуць цераз прахадную. А прапускоў няма. І дырэктар быццам загадаў прапускаць. Дык Вахцёр удзень, паводле дырэктаравага загаду, пускаў. А як прыцягваліся ўвечары, калі дырэктар ужо зьяжджаў дадому й нікога з начальнікаў на прадпрыемстве не заставалася, тады не пускаў. Яны спрачаліся, крычалі: у нас узгоднена з дырэктарам! А ён ім: я тут цяпер дырэктар. І праўда ж, калі начальства няма, за ўсё адказвае Вахцёр. На вуліцы цёмна, халодна, мокры сьнег, а гэтыя ўсё лазяць, усё швэндаюцца. Няма чаго. Пасядзі дома, паглядзі тэлевізар.

Не было яшчэ за 30 гадоў такога выпадку, каб Вахцёра пакаралі за тое, што ён кагосьці не пусьціў. Наадварот. Каралі за тое, што прапускаў, недаглядаў. Ён урэшце вырашыў: лепей перастрахоўвацца. Нават калі прымусіш чакаць нейкую важную асобу, начальства апраўдаецца: маўляў, бачыце, як добра службу нясе! А калі прапусьціш, дык тая ж асоба потым скажа дырэктару: а ваш чалавечак на вахце зусім мышэй ня ловіць...

Зьмяняў Вахцёра звычайна Іван Сьцяпанавіч. Гэта была даўняя завядзёнка. Гадоў зь пяць ужо. Яны так прызвычаіліся да гэтага, што калі недзе з год таму Іван Сьцяпанавіч захварэў, Вахцёр быў вымушаны захварэць таксама. Ён ня мог уявіць, што яго зьменіць не Іван Сьцяпанавіч, як заўжды, а нехта іншы, хаця б тая ж Клара Сяргееўна... Не, гэта немагчыма!

Напрыканцы зьмены Вахцёр кіпяціў сабе шклянку гарбаты, даставаў прыгатаваную ў хаце канапку ды з асалодаю еў. Скончваў ён гэтую справу роўна безь пяці, а бяз трох хвілінаў зьяўляўся Іван Сьцяпанавіч. Тады Вахцёр распавядаў зьменшчыку, што адбылося падчас дзяжурства, а потым яны гаварылі пра неспрыяльны час, пра чэргі, пра старасьць, пра непавагу...

Потым Вахцёр брыў дадому. І тры дні жыў, як нармальныя людзі: хадзіў у краму, езьдзіў да дачкі,

*Працяг на старонцы 4.*

З гэтай песьні ня выкінеш слоў,
Мы падобныя да маскалёў,
Бо ня чуюць радзімай зямлі
Пад нагамі ў сябе маскалі.

### Ля помніка генэралісімусу Сувораву

Быў калісь герой славуты
царскай зброяй паслухмянай,
сеяў гора і пакуты,
сеяў сьмерць. Служыў аддана.

За забойства сьветлай мроі
ўсіх, хто вочы паднімаў,
гаспадарскую рукою
ўзнагароду атрымаў:

добры кобрынскі маёнтак,
зь ім амаль сем тысяч душ,
золата манэтай звонкай,
ордэн, бант на капялюш...

Стогнуць хлопцы-касінеры:
што ж нашчадкі пахавалі
нашу волю й нашу веру
ды чужынца ўшанавалі?

То атручаныя дзеткі,
то сівыя вэтэраны
быццам зомбі, цягнуць кветкі
ў знак глыбокае пашаны.

То мужык прапусьціць шклянку,
ды з кабетаю ўдваіх
рускім матам ці трасянкай
палкаводцу цешаць слых.

Як раней, чубок у ката
безжурботна тапарыцца:
ўсё ж халопаў дзікаватых
мы прымусілі скарыцца.

Усьміхаецца міжволі:
быў народ — няма народу,
крыж стаіць на іхняй волі,
крыж дубовы — назаўсёды.

Ўрос нашыйнік нам у шыю,
ўжо ня цісьне, не баліць,
мы брахлівыя і злыя,
нашых душ не запаліць.

Голых баб, гарэлкі таннай,
кілбасы ня стане ўсмак.
Вернем крышачку пашаны
да сябе, хай будзе так:

раптам у вачох крывавых
жах жывёльны нарадзіцца,
памутнее позірк жвавы,
прыпыніцца кроў-вадзіца,

скаланецца наш нябога,
ды ня нам такіх судзіць,
не ўзьнясьцісь яму да Бога,
ў пекла шлях яго ляжыць.

Ў пекла, дзе даўно чакае
ля вялікага катла
злых чартоў ліхая зграя
ды кіпучая смала.

### Птушка шчасьця

Зубы скаліла, іржала канём
Птушка шчасьця
яркім сонечным днём,
Пекным пер'ем яе зад зіхацеў,
Ну а я сваё жыцьцё
прасьвісьцеў.
Але прыйдзе яшчэ дзень залаты,
Цуда боскае, ратунак сьвяты,
Я за птушкай матыльком палячу,
Даганю і галаву адкручу,
Каб ня скалілась,
ня ржала канём
Птушка шчасьця
яркім сонечным днём.

Алег Хацкевіч мае 24 гады, жыве ў Віцебску, працуе інжынэрам-праграмістам. Вершы публікуюцца ўпершыню.

# ЗАБЫТЫ ЮБІЛЕЙ. РЭКАНКІСТА

**Антон Сіюль**

Руская царква зь вялікім пагостам на ўскрайку Душанбэ. Нягеглы цёмна-блакітны купал — цыбуліна з жоўтымі крыжамі. Вакол — ніводнага дрэва, ніякага ценю. Па-над кладзішчам — голыя горы. Спачатку тыя, што бліжэй, — пукатыя й пульхныя на выгляд, а за імі — сьвінцова-бэзавыя ікластыя глыбы, што захінаюць краявід, як неймаверныя шырмы фантастычных дэкарацый.

І цішыня.

Такая ж цішыня, бадай, і на рэштках ісламскіх мізараў у Гішпаніі. Паўтысячы гадоў таму адсюль былі прагнаныя апошнія маўры. Забыты юбілей. Між тым, год заканчэньня Рэканкісты супадае з годам адкрыцьця Амэрыкі.

Кожнага разу, калі падыходзіць круглая дата — канец стагодзьдзя ці тысячагодзьдзя, — людзтва трапляе ў стан няўцямнага для сябе самога захапленьня і, сьлепаватае ад прыроды, аддаецца шалу празарлівасьці й фантазіям пра зьмены сьветабудовы. Гэтак фэерыя адкрыцьця Новага Сьвету зацьміла адну з найбуйнейшых падзеяў у гісторыі Сьвету Старога. Гэтак самая Гісторыя пакпіла зь людзтва праз няўвагу да выніку й прычыны аднае драмы, зь якое сталася магчымаю драма другая.

Moros (маўры) зьявіліся ў Эўропе нечакана, як вецер яны пранесьліся па Ібэрыі, за пяць гадоў (711—714) апанаваўшы амаль усю паўвыспу. Так пачыналася Рэканкіста. На працягу 800 (!) гадоў тысячы сьлпных і безыменных герояў падымаліся ў паход за Гішпанію, за вызваленьне. Перамога маўраў азначала б нябыт Гішпаніі. Таму гішпанцы выбралі барацьбу. Гэтак падчас хваробы мы выбіраем лекаваньне.

За гэты час мусульманская Гішпанія стала самай багатай, культурнай ды густанаселенай краінай Эўропы. Менавіта маўры вярнулі Эўропе антычных мысьляроў і вучоных, працы якіх дайшлі да нас дзякуючы рупнасьці арабскіх каліграфаў. Не было роўных бібліятэкам тагачаснай Гішпаніі. Кнігазбор халіфа аль-Хакама II (961—976) налічваў 400 тысяч тамоў. Аксаміт, ядваб, воўна, дарагія гатункі цісьненых і залочаных скураў, шкляны й мэталічны посуд, маёліка, ювэлірныя вырабы з слановае косткі ды ўнікальная зброя з майстэрняў Малагі, Кардовы, Сэвільлі, Валенсіі, Таледа сталі ў сярэднявечны сынонімам раскошы. Гэтак даўкі й таямнічы водар блізкае й чужое краіны быў уплецены ў суквецьце эўрапейскае цывілізацыі. А яшчэ альгебра, астраномія, геаграфія, чорная магія, мэдыцына, хімія, лазьні...

500 гадоў таму аб'яднаныя войскі Кастыліі й Арагону занялі апошнюю цытадэль маўраў — Гранаду. У 1498 г. менавіта сюды быў пераведзены трыбунал інквізыцыі. У Гранадзе запалалі вогнішчы з кніг. Сьледам на агонь узышлі людзі. Пераможцы ня ведалі літасьці.

Пасьля быў бляск Вялікіх адкрыцьцяў, Вялікага мастацтва, Вялікай Гішпаніі... Вялікі інквізытар Тарквэмада, кат маўраў і ерэтыкоў, блаславіў Калюмба.

Восем стагодзьдзяў Рэканкіста зьнішчала мусульманскую цывілізацыю Ібэрыі, узровень якой ня ведаў роўных. Выдзіраючы гэтую ружу са свайго гароду, гішпанцы сеялі свае кветкі. Восем стагодзьдзяў змаганьня збудавалі Гішпанію.

Калі хвароба валіць з ног, кошт лекаў ня мае значэньня, як і тая шкода, якую яны прыносяць. Галоўнае — устаць на ногі. Але ніхто ня будзе каўтаць пігулку на здаровую галаву.

Праўда, часам боязь тае шкоды вядзе да адмовы ад самога лекаваньня. Так у посткамуністычных краінах страх за лёс свабоды часам саступае мейсца страху перад самой свабодай. Са зьменаю дэкарацый лекі пачалі здавацца атрутай... У такой сытуацыі варта памятаць, што без Рэканкісты не было б адкрыцьця Новага Сьвету.

# стэрэатыпах

нага руху не было й дробнага намёку на антысэмітызм, а наадварот, падкрэсьлівалася імкненьне да супрацоўніцтва з усімі нацыянальнымі меншасьцямі.

ПАЛЯКІ. Іх вобраз у фальклёры вельмі дыфэрэнцыяваны, што адлюстроўвае рэальную неаднароднасьць гэтай этнічнай групы. Уласна перасяленцы з Польшчы — мазуры-«буднікі» склалі зусім нязначную яе частку. Пераважная ж большасьць — гэта карэннае каталіцкае насельніцтва, галоўным чынам прадстаўнікі зямельнае арыстакратыі й шляхты, што засвоілі польскую самасьвядомасьць і культуру. Ступень выяўленасьці гэтых асаблівасьцяў непасрэдна залежала ад палітычнае кан'юнктуры, чым і тлумачыцца рэзкае ваганьне ліку палякаў на Беларусі (у пачатку 1860-х — да 270 тыс., у 1897 — 134 тыс.). У беларускім фальклёры палякі фігуруюць пад рознымі назвамі: «ляхі», «палякі», «варшавякі», «мазуры» й «паны». Успрыманьне этнічных палякаў было дастаткова дабразычлівае, не пазбаўленае, зрэшты, іроніі. Адзначалася іх сьмеласьць (*«мазуру біцца, так як людзям хлеб з маслам зьесьць», «мазур каб і сьмерць угледзеў, то ня ўтоіцца»*), пачуцьцё ягамосьці (*«варшавяк, як галодны, то сьвішча»*) і, у той самы час — схільнасьць да нічоганяробства (*«мазур то анно да гуляньня зух»*). Пры гэтым мазур уяўляўся ня страшным ці брыдкім як расейцы або жыды, а хутчэй сьмешным (*«гэтыя мазуры ўсё то на кпіны зроблены»*). Але агульная ацэнка палякаў нашмат больш крытычная (*«палякі былі гайдамакі, мала аб краі дбалі і для таго прапалі»* ці *«па чом пазнаць ляха? — па том, што на чэраве бляха», «мудзер лях па шкодзе»*). Цалкам нэгатыўныя ўяўленьні пра «паноў» — памешчыкаў, галоўных прадстаўнікоў «пальшчызны» на Беларусі (*«што пан, то сабака», «з панамі знацца — бяды набрацца», «толькі гора пану, што жывот баліць»*). Відавочна аднак, што нэгатывізм гэты выкліканы не этнічнымі, а сацыяльнымі прычынамі (*«наш пан, а ваш гаспадзін — чорт адзін»*). Пра гэта сьведчаць і традыцыйна іранічныя адносіны беларускага селяніна да малазямельнае шляхты (*«пан, што на саломе сьпіць і зубамі блохі б'е», «усё паны ды паны, а торбу з хлебам не палажы: бо і хлеб зьядуць і торбу ўкрадуць», «вялікі панок, ды малы дварок»*).

ТАТАРЫ вядомыя на Беларусі з XIV ст. З XIX ст. іх колькасьць вагалася ў межах 8-10 тысяч чалавек. Выслоўі пра іх займаюць асаблівае месца ў беларускім фальклёры. Некаторыя (*«татары — добрыя гаспадары»*) уяўляюць рэдкія, калі не выключныя прыклады пазытыўных этнічных стэрэатыпаў. Гэта не адмяняе гіроніі, аб'ектам якой маглі быць асаблівасьці культу (*«дым як на татарскай працэсіі»*) ці залішняя на погляд беларуса ахайнасьць (*«пан і татарын адной натуры: пан што дзень мые лупы, а татарын — д...у»*). Многія этнографы адзначалі бесканфліктны, дабразычлівы характар адносінаў паміж беларусамі й татарамі[9]. У вялікай меры гэта вынікала з адсутнасьці моўнага бар'еру — пачынаючы з XVI ст. татары карысталіся беларускай мовай, у тым ліку і ў пісьмовасьці.

ЦЫГАНЫ нягледзячы на сваю малалікасьць (у XIX ст. іх колькасьць вагалася ад некалькіх соцень да 10-12 тыс.) у беларускім фальклёры адлюстраваныя даволі грунтоўна. Асаблівасьць вобразу цыгана — стрыманыя характарыстыкі, зьмякчаная гіронія ацэнак (*«маеш, цыгане, сьведкі? — А як жа — жонка і дзеткі», «цыган дарогу знае і яшчэ пытае», «увобраны як пан, а робіць як цыган»*). Згодна з назіраньнямі М.Доўнар-Запольскага «крестьяне весьма побаиваются цыган, крестьянин готов пойти на разные уступки, лишь бы не поссориться с цыганом»[10].

На першы погляд можа зьдзівіць адсутнасьць у беларускім фальклёры вобразаў ЛІТОЎЦА і ЎКРАІНЦА, асабліва на тле выслоўяў пра НЕМЦАЎ (*«у немцаў утэды пост, як мяса няма, а ўтэды сьвята, як няма работы»*) і ФРАНЦУЗАЎ (*«мусью француз, ці не зьясі гарбуз»*). Пры гэтым уяўленьні пра Літву (*«на Жмудзі і куры людзі»*) і Ўкраіну (*«гэта ж не Ўкраіна»*) зафіксаваныя. Прычына такое зьявы, відаць, у тым, што традыцыйная сьвядомасьць падвяргала аналізу не суседнія народы, а найперш прадстаўнікоў тых іншаэтнічных групаў насельніцтва, кантакты зь якімі былі рэгулярныя. Менавіта для спрашчэньня штодзённых зносінаў зь імі і патрэбныя былі стэрэатыпы, зафіксаваныя ў прыказках і прымаўках.

Такім чынам, можна канстатаваць, што ў XIX — пачатку XX стст. у беларусаў на ўзроўні масавае сьвядомасьці йснавала разьвітая сыстэма этнічных уяўленьняў, якая дазваляла дыстанцыяваць сябе ад усіх магчымых удзельнікаў узаемадзеяньня. Разам з тым, адзначым характэрную адсутнасьць суб'екта стэрэатыпізацыі, альбо актуалізацыю яго ў пазаэтнічнай форме, што было абумоўлена як стадыяльнымі, так і зусім індывідуальнымі асаблівасьцямі традыцыйнай этнічнай самасьвядомасьці беларусаў. Заўважым таксама, што спэцыфіка традыцыйнай этнічнай мэнтальнасьці ў беларускай этнаграфіі ды этнапсыхалёгіі — адзін з найменш распрацаваных сюжэтаў. Дасьледаваньне беларускае этнаніміі й рэканструкцыя на гэтай падставе эвалюцыі формаў этнічнае самасьвядомасьці не вычэрпвае ўсёй глыбіні праблемы[11].



[9] Зеленский И. Минская губерния. Т.2. СПб, 1861. С.425; Карева А. Виленская губерния. СПб, 1861. С.359.

[10] Россия. Цыт. пр. С.218.

[11] Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенэз, этнічная гісторыя. Менск, 1985; Чаквин И., Терешкович П. Из истории становления национального самосознания белорусов (XIV — начало XX в.) // Советская этнография. 1990. №6.

# *Кнігі гэтага году*

### Васіль Быкаў.
### Сьцюжа.
### Менск, Мастацкая літаратура, 1993.

У самым канцы новай аповесьці стаяць дзьве лічбы — 1969 і 1991. Напэўна ў гэтым прычына пэўных інтанацыйных перападаў, што заўважныя прынамсі ў параўнаньні з папярэдняй «Аблавай». І хоць фабулай «Сьцюжа» амаль паўтарае «Аблаву», шлях героя тут не сканчаецца сьмерцю, канцоўка не стае кульмінацыяй і таму выпадае са звыклае для Быкава манэры. Выпадаюць таксама сцэны мяшчанскага быту, у якіх аўтар выступае як трывіяльны беларускі савецкі пісьменьнік, і публіцыстычныя ўстаўкі, якія нагадваюць публікацыі Быкава ў газэтным жанры. Зноў і зноў прамацваючы, перабіраючы, выпрабоўваючы народную псыхалёгію, шукаючы свайго боку гэтага народу ў сытуацыях сталіншчыны й вайны, аўтар на гэты раз спрабуе валявым парадкам, міма ўласнае рэалістычнае эстэтыкі, увесьці прысьнёны героем матыў беларускага сьцяга. «І тады на абрывістым беразе рова паявіўся нацдэм Дарошка. Нібы вясковы дзед, той стаяў чамусьці ў нейкім белым убраньні,.. а абапал яго цурчалі з абрыву крывавыя ручаі». Аўтар выразна паказвае на нацыянальны шлях, але народная псыхіка не адгукаецца яму, бо народ, магчыма, яшчэ ня стаў нацыяй. У гэтым сэньсе вяршыняй выглядае папярэдні твор, дзе Быкаў сьцьвердзіў, што свайго боку — не было. Усё, што чынілася па-над галовамі гэтых людзей — ім чужое й варожае. Але ісьціна страціла б сваю прыцягальнасьць, калі б мы згадзіліся, што яе няма. Адсюль валявыя, псыхалягічна не апраўданыя ў прозе захады Быкава-публіцыста. Аднак ёсьць у «Сьцюжы» й Быкаў-Быкаў. Гэта калі на імшастым узьлеску насьцігае героя калючы вецер з дажджом і сьнегам, надакучлівы голад у збалелым, параненым целе, калі з усіх бакоў аблава... Калі аўтар становіцца раптам Творцам і гоніць свайго падбітага пэрсанажа праз жудасьці часу ды фантасмагарычныя карціны сусьветнага канца, знаходзячы ў ягонай непрыкаянасьці й безвыходнасьці сваю сапраўдную творчую насалоду.

С.Д.

### Галенчанка Г.Я.
### Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. — Менск: Навука і тэхніка. 1993. — 280 с.

Аўтар гэтай грунтоўнай кніжкі так і не давёў, чаму Ф.Скарына — «... і ўсходнеславянскі першадрукар». Затое ў тэксьце, хоць і ня вельмі акрэсьлена, імплікаваны матэрыял пра тое, як Франьцішка Скарыну рабіла ўсходнеславянскім першадрукаром расейская гістарыяграфія XIX ст., абапіраючыся на ягоныя «руския литеры». Між тым, першадрукар спраўджаў праект, разьлічаны на свой Полацак і сваё Княства. Прычым, гэта быў *свой* праект. Разглядаючы крыніцазнаўчыя й гістарыяграфічныя аспэкты, Г.Галенчанка правёў у пэўным сэньсе прыватызацыю жыцьця Ф.Скарыны, вярнуў яму сваё жыцьцё, вызваляючы ад ранейшай сацыялягізацыі і надаючы яму індывідуальныя рысы. У такім ракурсе жыцьцё Ф.Скарыны — гэта ня толькі сацыяльная дзейнасьць, але й рэалізацыя ўласных памкненьняў ды амбіцый.

А.Д.

### Юхо Я.А.
### Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Вучэбны дапаможнік. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1992. — 270 с.

«Кароткі нарыс...» зьявіўся са спазьненьнем на сто гадоў. Тады, у другой палове XIX ст., ідэі славянскай еднасьці сапраўды былі вельмі папулярныя, тады ж выходзілі кніжкі П.Шафарыка й Л.Нідэрле, на якія часта спасылаецца праф. Юхо. Ідэі былі папулярныя, але самой славянскай еднасьці з часоў яе распаду ў 4—6 ст. н.э. не йснавала (дый, мусіць, існаваць ужо ня будзе). Гэткую акалічнасьць у тым жа XIX ст. любіў адзначаць Карл Маркс, які паталягічна не любіў славян — маўляў, сабраўшыся на Панславісцкі кангрэс, яны ня здолелі моўна паразумецца й таму перайшлі на нямецкую.

Акрамя таго, кніжка гэтая вузкаканфэсійная. Займацца апалягетыкай толькі аднаго кірунку хрысьціянства прынамсі не дальнабачна, а чыста гістарычна — значыць, ня ўлічваць усёй спэцыфікі разьвіцьця Беларусі. Мы асабліва звараччаем увагу на гэткія аспэкты «Кароткіх нарысаў...», бо кніжка рэкамэндаваная ў якасьці вучэбнага дапаможніка.

А.Д.

# Пра тое, як я чытаў прозу Дранька-Майсюка

### Дранько-Майсюк Л.
### Пра тое, як я... : 13 несур'ёзных апавяданьняў. Менск, 1992.

Запрасілі мяне разьняволіцца, уладкавацца ў фатэлі ды паслухаць апавяданьні, несур'ёзныя, як показкі:

на габрэйскую тэму: «Яўрэй мой знаёмы Лёва Каганаў эміграваць надумаўся...»

пра партыйных таварышаў Кім Ір Сена ды Восіпа Вісарывонавіча, пра пана Юзафа Пілсудзкага, пра Лепшага беларускага кампазытара і пра труп афганскага героя ў цынковай труне.

Паслухаўся я ветлага запрашэньня, залез у фатэль, прымружыў вочы ды слухаю. А дранькоўскі герой-апавядальнік завіхаецца каля мяне, бы пастрыгач, ды зюзюкае пра тое, «як я забароненую літаратуру чытаў» ды пра тое, «як я ў заходнебэрлінскую опэру хадзіў...» І закалыхаў быў мяне гэты голас нягучны, аксамітавы, цешылі немудрагелістыя показкі, але нейк я сьцяміў, што ўжо не пра дарагога Ільліча і не пра Лёву Каганава показка, а пра... Я нават прыўскочыў з фатэля й запытаўся: «Пра каго гэта, дзядзька?»

Мая прафэсія, бачыце, літаратурнакрытычная. Філёляг я. А філёлягі зробленыя так: ня вераць, што ў кнігах можна проста так распавядаць показкі. Без глыбіннага падтэксту. Бязь сьмеху скрозь сьлёзы. Без трагічнай калізіі. Безь сьвятла ў канцы тунэлю. Калі без — дык навошта? У чарзе па піва й не такое паслухаеш...

Яшчэ я зачапіўся аб дранькоўскага героя: што яму за асалода пра самога сябе распавядаць несамавітыя показкі. Ды яшчэ зь незразумелай бравадаю: як «кэдэбістаў» баяўся і ўголас дэклямаваў дазволеную цэнзурай «Зьвязду». Як, выбачайце, у хвортку пляваўся й сачыў, як «мой плявач паэтычны паляцеў у бязносую морду ліхтаровую».

Я стаў перабіраць літаратурных пэрсанажаў, гэткіх жа самагіранічных, блазнаватых. Напружыў філялягічную памяць ды згадаў... мужыка з лапцем. Таго, што з глядзельнае залі шпурнуў акторцы замест кветак свой лапаць і, зачапіўшы гэтым лапцем за жырандолю, ледзьве не падпаліў перапоўнены тэатар. А пасьля, папасядзеўшы за тое ў турме, распавядаў пра ўсё гэта ў камічнай вершаванай форме. Зь сябе блазнаваў, каб гэткім чынам з дурняў выбіцца ў разумнікі.

Марцінкевічаў Халімон на каранацыі — заглядаўся на ніштаватага царка, выратаваў ад штурханіны паню. Багушэвічаў мужык, «дурны, як варона» і Купалаў «чалавек, хоць і мужык». Коласаў дзядзька ў Вільні. Блазнаваньне — як ахоўная шкарлюпіна, як спосаб давесьці, што «я» ня горшы, а лепшы за «іх», ну, хаця б тых, што «сядзяць, як кучкі гною».

У Мрыя Самсон Самасуй блазнаваў дзеля таго, што быў горшы за астатніх, такую гаротную долю наканаваў яму сатырычны пісьменьнік, але ўсё адно непаўторна брыдкі, геніяльна мярзотны Самасуй на тле абывацеляў шапятоўскага віру, сонных самоў ды ліноў, вяртлявых курыцаў ды крэйнаў. Таму Самасуй заўжды ў гуморы.

Дранькоўскі «я-герой» таксама ў гуморы, але не таму, што горшы або лепшы за астатніх. А — што такі, як усе. Дакладней, усе як ён.

Таму ён бадзёра строіць дурніцу ў заходнебэрлінскай опэры на пацеху нямецкім бюргерам, бо ведае, што за сьпінаю — «нашы». А пасьля опэрнага спэктаклю дзярэ глотку на вулках ночнага соннага места, выводзіць нілілевічаўскую «А я лягу-прылягу», — бо ведае, што «нашы» падхопяць. І падхопліваюць. І «я» задаволены. «Я» любіць сьпяваць хорам.

У чарзе па цукар «я» таксама задаволены, бо й сьпераду, і ззаду такія ж «я», і таксама па цукар. Ідучы на забаронены мітынг, «я» пачуваецца ў бела-чырвона-белай эйфарыі, бо ён у натоўпе, і гэта галоўнае, а ня тое, што мітынг забаронены.

Чытач ніколі ня ўведае, які «я» — які ў яго нос, вушы, і ці носіць ён бараду. Дзеля гэтага «я» зноў радуецца: ён у ценю. На сцэне, бо пэрсанаж, але ў ценю.

Вось мэтафарычны сэнс настойлівай дранькомайсюкоўскай інвэрсіі. Актор і глядач (чытач) замяніліся ролямі. Ранейшы глядач бачыў на сцэне Эдыпа, благаў зь ягонага гора й радаваўся, што сам ён не Эдып (трагедыя). Альбо глядзеў на гарапашнага Мацея, зьбітага шарлятанам-лекарам, і сьмяяўся: «Пацей, брат Мацей». Камэдыя.

Дранькоўскі «я» радуецца, што ён не Эдып, не Мацей-пацей, а бясформны, цьмяны цень, і вакол, у прыцемненай зале — цені, цені. І калі «я», блазнуючы, кіне лапаць, гэты лапаць нікому не пашкодзіць, бо і ён — цень.

Таму герой-пастрыгач гэткім упэўненым аксамітавым галаском распавядае показкі пра гістарычных асобаў і пра «я», пра ўсіх, а як пра ўсіх — дык нікому й ня крыўдна.

Хіба што зрэдзьчасу пасьля гэтых показак адчуецца няўлоўны дыскамфорт, народзіцца няёмкае пачуцьцё. Няўжо і я — цень?.. Але, магчыма, гэта філялягічная мроя.

Набяжыць яно, няёмкае пачуцьцё, ды сплывае. Показка ёсьць показка. «Сядзеў я неяк у карчме Траецкай, кавай гарачай цешыўся...» Не, не абяцаньне трагедыі.

Гэта ў фантастычнай навэле Брэдбэры фіцюлька, фіньціклюшка, драбніца, пусьцяковінка выбухнула з грандыёзнай, страшэннай моцай, патрушчыўшы ўсё навокал. Дранькоўскія показкі ня выбухнуць. Накрыпка ня тая, ня тога гатунку. Але драпянуць па жывым, зацягнуць цябе на момант у абсурдальнае прыстаўленьне, у недарэчны тэатар ценяў — могуць. Ушчыкнеш сябе за бок — і згінула насланьнё.

Такая філялягічная прыгода.

П.В.


© 1992 Малюнак Дзяніса Раманюка

Вахцёр сьцяўся ў сваёй будцы. Ён вельмі чакаў, калі нехта прыйдзе, але гэтым людзям быў чамусьці ня рады.

Яны пахадзілі па фае й памкнуліся на тэрыторыю прадпрыемства. Праз вахту.

— Стоп, — сказаў Вахцёр. — Забаронена. Вашыя прапускі.

— Якія яшчэ прапускі? — засьмяяліся людзі. — Кінь! Ідзі дадому, адпачывай.

— У такім выпадку я вас прапушчу толькі па загадзе дырэктара, — упарціўся Вахцёр.

— Якога дырэктара! — сьмяяліся людзі. — Мы купілі гэты будынак. Ідзі дадому. Ты болей не патрэбны.

— Я не пушчу вас., — цьвёрда сказаў Вахцёр.

Тады яны проста адсунулі яго ўбок і памкнуліся, куды ім было трэба.

Вахцёр кінуўся да шафы, дзе захоўвалася зброя. Ліхаманкава ён адамкнуў замок, выхапіў аўтамат, зарадзіў яго й пачаў страляць ва ўварванцаў. Ён расстрэльваў іх доўга і з асалодаю. Яны пазіралі на яго з гідлівасьцю й страхам.

Нават калі прыехала «хуткая», ён усё яшчэ рабіў выгляд, што страляе...

# За нашу і вашу волю...

***Рэфэрат летувіскага гісторыка Эгідыюса Александравічуса «Ад клічу "За нашу і вашу волю!" да сучаснага нацыяналізму» зь нязначнымі скаротамі — з газэты «Kurier Wileński»***

1. Кліч паўстанцаў Польшчы й Літвы ў XIX ст. «За нашу й вашу волю!» меў ёмісты сэнс і не заўсёды быў зразуметы адназначна. Дагэтуль няпроста сфармуляваць, хто ў сярэдзіне XIX ст. быў «наш», хто — «ваш» і як разумелася воля, за якую пралілі кроў тысячы патрыётаў. Вядома, аднак, што мяжа, якая ў той час падзяліла «сваіх» і «чужых», пралягала на ўсход ад гістарычных межаў Літвы. Ідэолягі паўстаньня 1863 г. падкрэсьлівалі, што вынік іхняга змаганьня залежыць ад лібэралізацыі Расеі ці заняпаду тамтэйшага самаўладзтва. А ўжо пасьля дэкляраваная воля разумелася як вызваленьне ад уласных і чужых тыранаў.

Нашмат цяжэй адказаць на пытаньне: што гэты кліч азначаў для Літвы і ці тагачаснае грамадзтва было гатовае зразумець яго як імкненьне да адновы дзяржаўнасьці Польшчы й Літвы ды іх саюзу ў якой-небудзь мадыфікаванай форме (фэдэрацыі ці канфэдэрацыі) перад абліччам супольнага ворага — расейскай імпэрыі.

2. У нашай гістарыяграфіі ўжо ў 1920-х распачалася палеміка пра значэньне паўстаньня ў адраджэньні Літвы. Па-рознаму ацэньваліся ня толькі памкненьні паўстанцаў, але й роля М.Мураўёва. Уфармаваліся дзьве падставовыя канцэпцыі руху вызваленьня Літвы XIX ст. Адна, названая В.Трумпам рамантычнай, і другая — рэалістычная. Першую прадстаўляюць М.Рёмэр, браты В. і М.Біржышкі і досыць нечакана — польскі гісторык М.Ахманьскі. Другую — П.Клімас, Ё.Тоторайтіс, П.Шлежас, схіляўся да іх і сам В.Трумпа.

Паводле ягонага гіранічнага выказваньня, першыя стваралі наступную карціну: неўзабаве па заняпадзе Рэчы Паспалітае Абодвух Народаў, у Літве пачаў пашырацца рух супраціву захопнікам, перадусім — Расеі. Праз змову братоў Ціцерскісаў, войны Напалеона й легіяністаў, канспіратыўныя арганізацыі студэнтаў Віленскага Ўнівэрсытэту, паўстаньні 1831 і 1863, праз разьню ў Крожах і інш., праз кніганошаў, праз «Aušr'у», «Varpas», рэвалюцыю 1905 г. і Вялікі Віленскі Сойм шлях прывёў да 16 лютага, калі ўся гэтая барацьба была ўвенчана апошняю перамогай — аднаўленьнем незалежнасьці Літвы.

Прыхільнікі другой канцэпцыі прадставілі амаль адваротную карціну таго самага руху: на працягу ўсяго XIX ст. сапраўдныя літоўскія патрыёты ня мелі нічога супольнага з рухам антырасейскім, з абодвума паўстаньнямі XIX ст. Віленскі Ўнівэрсытэт, будучы асяродкам палянізацыі, ня толькі не змагаўся за Літву, але да таго ж кпіў з Д.Пошкі (Пашкевіча) й іншых патрыётаў; у 1831 і 1863 гадох, што былі пэрыядам палянізацыі (lenkmetis) марна шукаць ідэю незалежнасьці Літвы; М.Мураўёў вешаў паўстанцаў, нішчыў іх атачэньне, але ж ягоны дарадца Гільфэрдынг прапанаваў адкрыць ва Ўнівэрсытэце курсы літоўскае мовы. Карацей кажучы, прыхільнікі другой канцэпцыі ўвесь антырасейскі рух разглядалі выключна як «палітычную праграму» кіраўнічага слою (альбо шляхты) Літвы на працягу ўсяго XIX ст. Маўляў, гэтыя грамадзяне ВКЛ змагаліся не за Літву, а за далучэньне Літвы да Польшчы, а таму іх пазыцыя была цалкам чужая інтарэсам літоўскае нацыі. Літвіны — асабліва новае пакаленьне актывістаў нацыянальнага руху, якое паходзіла зь ніжэйшых слаёў — былі абыякавыя да паўстаньняў і, на думку В.Трумпы, ня надта цікавіліся вырашэньнем польска-расейскага канфлікту, які для Літвы меў толькі ўскоснае значэньне. Канфлікту ж расейска-літоўскага ў паўстаньнях XIX ст. як быццам не йснавала ўвогуле.



Ужо сам факт палемікі, якая доўжыцца больш за паўстагодзьдзя, робіць магчымым сьцьверджаньне, што закранутая намі праблема належыць да найбольш складаных і важных старонак у гісторыі Літвы, якія, на жаль, не былі прачытаныя да канца.

3. Абедзьве канцэпцыі выдзяляюць (хоць і па-рознаму інтэрпрэтуюць) два найважнейшыя пытаньні. Па-першае, культываваная шляхтаю Літвы традыцыя дзяржаўнасьці ВКЛ і погляд шляхты на унію з Польшчай, а таксама яе пазыцыя адносна астатняй часткі літоўскай нацыі. Па-другое, пытаньне саюзьнікаў новага пакаленьня літоўскага нацыянальнага руху, яго арыентацыя, наколькі кліч «За нашу й вашу волю!» адпавядаў жаданьням гэтага пакаленьня. Інакш кажучы, ці ў сярэдзіне XIX ст. нацыянальныя рухі палякаў і літвіноў супадалі ў барацьбе з прыгняталыйкамі.

На маю думку, найменш прадуктыўнае тут — спрашчэньне праблемы, погляд на шляхту без падзелу яе на слаі, што імкнуцца да розных мэтаў, і без узаемнага іх пранікненьня. Прадстаўнікі дэмакратычнага руху ў асяродзьдзі шляхты Літвы падтрымлівалі ягелонскую ідэю, якую напярэдадні паўстаньня 1863 г. сфармуляваў А.Г.Кіркор: «Хіба Літва, будучы з Польшчай, павінна перастаць быць Літвой?» Адказ дэмакрата, які ўважаў сябе за грамадзяніна ВКЛ быў такі: «Не! Каб быць з Польшчай, Літва не павінна перастаць быць Літвой. Я літвін і гэтае адчуваньне ніколі ня будзе ўва мне зьнішчанае. (...) Я адчуваю сымпатыю да Польшчы, наколькі яе лёс павязаны з нашым». У якой меры гэты лёс лучыў літвіноў і палякаў ў 1863 г., яшчэ больш выразна сьведчыць прызнаньне правадыра літоўскіх паўстанцаў А.Мацкявічуса ў камэры допытаў: «Паколькі Літве для самастойнай рэвалюцыі бракуе многіх умоваў (...) я хацеў (...) дапамагчы Польшчы, а ад яе чакаць дапамогі для рэвалюцыі ў Літве, (...) народ жа літоўскі раней ці пазьней сказаў бы сваё слова ў справе ўласнага лёсу». А.Мацкявічус і большасьць правадыроў паўстаньня ў Літве ўсьведамлялі надзвычай заблытаную геапалітычную сытуацыю, зь якой вынікала наступная альтэрнатыва: альбо ў супольным з палякамі змаганьні дамагчыся часткова падзеленай зь іншымі ўдзельнікамі магчымай фэдэрацыі сувэрэннасьці ў складзе Польшчы, альбо пад ярмом расейскай імпэрыі перастаць увогуле быць Літвою. Назіраючы за дзейнасьцю й лёсам бліжэйшых таварышаў і вучняў С.Даўкантаса і М.Валанчуса ў так званы пэрыяд палянізацыі, лёгка ўбачыць, што ў пераважнай большасьці — наколькі дазваляў узрост і здароўе — яны ўздымалі штандар паўстаньня.

4. Падаўленьне паўстаньня 1863 г. было каварным ударам для шляхты Польшчы й Літвы, якая па-ранейшаму лічылася за галоўную палітычную сілу. Ахвяры бітваў, эміграцыя на Захад і выгнаньне на Ўсход, канфіскаты й кантрыбуцыі, забарона інтэлігенцыі працаваць ва ўласным краі, палітыка культурнай русыфікацыі — усё гэта зьмяніла палітычныя настроі. Перад аблічвам натуральнага дэклясаваньня шляхецтва Літвы й уваходу на палітычную сцэну літоўскай інтэлектуальнай грамадзкасьці сялянскага паходжаньня, традыцыйны шляхецкі кірунак паступова пераставаў дамінаваць у грамадзкім руху, а што яшчэ горш, ня здолеў знайсьці супольнае мовы зь іншымі рухамі. М.Біржышка, які паходзіў з шляхты, пазьней скажа: «Калі б літоўскае пісьменства не было забароненае, а ў змаганьні супраць паўстаньня 1863 г. маскалі ўжывалі якіясь іншыя сродкі, лык нават калі б сытуацыя літвіноў не была такая, як латышоў і эстонцаў, якіх гэтае паўстаньне не кранула, супраць веры якіх не было прадпрынята ніякіх захадаў і якія самі да 80-х гадоў не былі германізаваныя (як мы — палянізаваныя. — Э.А.), тады, нават прыгнятаныя на працягу 40 гадоў, літвіны займелі б болей (...) Шляхам натуральным і здаравейшым для нацыі яе кансэрватыўныя слаі згрупаваліся б і вызначылі сабе спакайнейшую й выгаднейшую палітычную лінію, чым гэтая, накінутая ім самім расейскім урадам, вострa й ваяўніча апазыцыйная».

Губляючы свае пазыцыі, шляхецкі кірунак вызваленьня на працягу ўсёй другой паловы XIX ст. быў адным з супярэчлівых грамадзкіх кірункаў Літвы, у ідэёвым арсэнале якога, на жаль, кансэрватыўныя погляды былі засланёныя клічамі мадэрністычнымі. Першыя праявы нацыяналізму літвіноў і палякаў падсоўвалі шляхце альтэрнатывы этнапалітычнай арыентацыі, шляхта аддалялася ад кораню літоўскае нацыі, а «gente lituanus, natione polonus» усё больш выразна ператваралася ў адно «natione polonus», пакідаючы праблемы каранёў для гісторыі й сямейных альбомаў. Гэты працэс цягнуўся аж да 1918 году.

5. Хоць 1905 год у нашай гістарыяграфіі нават «рэалісты» называюць сапраўдным годам літоўскіх урадаў (lietuvmetis), супольныя з палякамі паўстанчыя традыцыі былі па-ранейшаму жывыя, хоць і ў зьмененым выглядзе. Малады літоўскі нацыяналізм пераняў зусім нязначную частку традыцый супольных з палякамі вызваленчых бітваў, якія ў 1863 годзе й раней лучыліся з абаронай дзяржаўнасьці Літвы й інтарэсамі літоўскіх сялянаў. Зь непасрэднага досьведу паўстаньняў штораз больш карысталася сьпіхнутае на пэрыфэрыю жыцьця Літвы маладое пакаленьне шляхты. М.Рёмэр сьцьвярджае, што гэта такія людзі, як «літоўскі эмігрант, шляхціц, паляк літоўскага паходжаньня — Юзаф Пілсудзкі, што лучыць у сабе цьвёрды літоўскі характар з ідэямі польскай Літвы, найбольш выразна адлюстроўвае пералом гэтай традыцыі». «Сацыялізм і рэвалюцыянізм маладога Юзафа Пілсудзкага, які пакілае ў XIX ст. сваю айчыну Літву, быў рамантычны, — пісаў той самы М.Рёмэр у 1935 годзе — ён быў эпігонам паўстаньняў у Літве, асабліва паўстаньня 1863 г. Калі б ён жыў у 1863 г. — магчыма быў бы... тагачасным правадыром крыла чырвоных паўстанцаў і літвіны згадвалі б яго з пашанай і сымпатыяй, як аднаго з тых, якія ў тым паўстаньні дбалі пра аўтаномнасьць Літвы адносна Польшчы, бо без сумневу Юзаф Пілсудзкі меў пэўнае пачуцьцё сэпаратызму Літвы, палітычнае апрычонасьці Літвы. Для яго Літва й ня толькі літвіны, але й палякі Літвы — былі нечым іншым, чым Польшча. (...) Аднак часы зьмяняюцца. Чалавек, які ў 1863 г. быў бы названы літвіном-сэпаратыстам, у сьвятле ідэалаў адроджанае Літвы дня сёньняшняга становіцца нацыянальным ворагам Літвы».

Такая характарыстыка раскрывае ня толькі адну выдатную постаць, але і ўвесь пэрыяд бітваў XIX ст., яго дэфармацыю й раскол у новай сытуацыі і нарэшце — сумны фінал. У падзеях 1905—1907 яшчэ было нешта, што нагадвала ранейшыя часы, але толькі нагадвала. У прынцыпе новыя рысы руху літвіноў (і яшчэ больш палякаў), зачаткі якога ледзь праразаліся ў аблічвы сэпаратызму нашых паўстанцаў 1863 г., пераважылі над колісь дамінуючымі ўспамінамі супольных з палякамі бітваў, нягледзячы на тое, што кліч «За нашу й вашу волю» цалкам не пайшоў у нябыт.

**Усьвядоміўшы сябе спадкаемцам**
**гістарычных дзеяў свайго краю,**
**сучасны беларус рана ці позна**
**трапляе ў поле дыялёгу**
**спадкаемцаў**
**польскага й летувіскага.**
**Яны вядуць сваю спрэчку даўно**
**й напрацавалі немалы досьвед.**
**Нас яшчэ няма**
**ў гэтым Віленскім Клюбе,**
**дзе зноў і зноў**
**перадзельваюць спадчыну ВКЛ.**
**Тут сыходзяцца культуры,**
**прагныя да шлюбу,**
**і ідэалёгіі, прагныя да разводу.**
**Навукі паводзяць сябе то так,**
**то гэтак, а то й ніяк.**
**Але нас тут няма, бо нам яшчэ**
**дастаткова ўласнага ўяўленьня**
**пра ўласную мінуўшчыну.**
**Мы можам дэманстратыўна**
**не заўважаць, што яна —**
**ня толькі наша ўласная.**
**Дэманстратыўна таму,**
**што не заўважаюць нас. Гэта**
**нас раздражняе, і мы сьціскаем**
**свае канцэпцыі «да ўпору»,**
**да цесных і душных кратак.**
**Але нарэшце**
**на нас пачынаюць рэагаваць,**
**і нам становіцца няўтульна**
**ў сваіх «даўпорных» канцэпцыях,**
**нам ужо трэба ведаць — што**
**пра нашу гісторыю думаць тыя,**
**для каго яна таксама наша,**
**і мы прачыняем дзьверы**
**ў Віленскі Клюб...**

# Дзёньнік прыватнага чалавека

**Ад Рэдакцыі**

* * *

Падобна, што вяртаюцца старыя часы... Відаць, прайшло дастаткова часу, каб яны падаліся лепшымі за новыя. Забываюцца арышты талакоўцаў і крыўда ад «Пены на хвалі перабудовы», пагромы ў беларускіх рэдакцыях і заложная безнадзейнасьць быту... Так хутка забываюцца старыя часы! Камунізм — яшчэ ня самае страшнае, — кажа А.Міхнік. Ня трэба іх баяцца, галоўнае — мы не аддалі ім маёмасьць, — кажа С.Шушкевіч. Антыкамунізму не дастаткова, — кажа Ж.Жалеў... І ў Летуве да ўлады прыходзяць экс-камуністы. І мы згадваем, што да людзей з папярэдняга апарату прасьцей было трапіць на прыём. І што на летувіскай тэлевізіі па якіх заўгодна прычынах не здымалі з эфіру беларускія перадачы. Магчыма, гэта нацыяналізм-пераможца быў велікадушны. Беларуская перадача, пачатковая кляса, газэта ў Летуве — гэта тое, што мог ацаніць па-сапраўднаму толькі нацыяналізм. Для яго гэта былі йстотныя паказчыкі ягонага посьпеху, пэўная палітычная фора. А што гэта ўсё значыць для сацыяліста? У яго свае ўяўленьні пра прэстыж і правы чалавека. Сацыяліст не разумее нацыяналіста падобна як спартсмэн не разумее калекцыянта. Палітык-спартсмэн арыентаваны на вынік, на час, на колькасьць. Палітык-калекцыянт дбае пра багацьце, шматстайнасьць, гармонію... Яшчэ ўчора здавалася, што няма нічога немагчымага, нішто не перашкаджае. Мусіць, гэта быў нік свабоды, якая зазірнула да нас, але не захацела застацца. Яшчэ ўчора чалавек верыў у сваё — ніхто не адбярэ. А сёньня вярнуўся сумнеў. Перадумовай клопату пра чалавека сацыяліст лічыць валоданьне чалавекам. Сапраўды, аддайце нам гэта, каб мы маглі зрабіць яму лепш... Разам са старымі часамі вяртаецца няўпэўненасьць. Можа, яна будзе сыцейшая за ўчарашнюю галадняватую надзею? Пакуль нішто не абяцае гэтага, але ўжо думаецца: што лепш — галодная надзея ці сытая безнадзейнасьць? Адказ у кожнага можа быць свой. А.Камю лічыў, што свабодным бедняком быць лепей, чым багатым нявольнікам. «Вядома, — пісаў ён, — людзі хочуць быць і багатымі і свабоднымі — і з-за гэтага часам становяцца беднымі рабамі». Мабыць, добра Міхніку ў Польшчы і Жалеву ў Балгарыі. На Беларусі ж і ў Летуве антыкамунізму, мабыць, яшчэ — дастаткова.

* * *

Тое, што русыфікацыя ды саўковасьць авалодвала мазгамі розных народаў па-рознаму, — залежала не ў апошнюю чаргу ад асыміляцыйных патэнцыяў розных моваў. Напрыклад, калі летувісы вымаўлялі: камунізмас, Ленінас, маўзолеюс — паняцьці й вобразы ўжо ад гэтага страчвалі ў сваёй манумэнтальнасьці. Адрозьненьні абрэвіятураў: КПСС — TSKP, СССР — TSRS — сваёй двухзначнасьцю ўжо разбуралі *единообразие* ідэалёгіі. Уваходзячы ў мову, гэтыя словы траплялі ў зусім іншыя гукавыя асацыятыўныя сувязі — ажно да сьмешных. Нават вымаўленьне з акцэнтам руйнавала маскоўска-бальшавіцкі фундамэнталізм. Напрыклад, калі летувіс прамаўляе «Астанькіна» (інакш ён ня вымавіць) — нічога не застаецца ад роўнае вібрацыі сталёвае струны: «Останкино». Тут табе і «отстань» і нейкія «танькі-манькі». Дарэчы, у якімсь беларускамоўным асяродку пераклалі — Рэшткіна. Праявіўся моўны імунітэт, што быў падбіты ў 1933 годзе. Жывая мова ўсё засвойвае, а тая, што не засвойвае, якой не даюць засвойваць, — перастае жыць. Яна й не жыве ў тых асяродках, дзе прыдумляюць сёньня «перавагі наркомаўкі». Гэтыя адэпты звычайна не гавораць па-беларуску па-за працай. Іх мова мёртвая, як той даўным-даўна мёртвы нарком.

* * *

Фэномэн беларуска-расейскага адзінства ў тым, што гэтая зьява псыхалёгіі беларускага чынавенства, падпарадкаванага Маскве, стала зьявай псыхалёгіі цэлага народу. Гэта нават і не адзінства, а чыста субардынацыйнае запабяганьне аднае нацыі перад другой. Зьява тым больш ненатуральная, што пры дэкляраваным адзінстве дзьве нацыі як такія суіснаваць разам проста ня могуць: дзьве мовы, дзьве гісторыі, дзьве «пароды» адразу ўступаюць у канфлікт і большая альбо вынішчае, альбо паралізуе ды разбурае меншую. Парадокс у тым, што чынавенская субардынацыя амартызуе гэты працэс, і калі б яна зьнікла, — адзінства зараз бы зьмянілася лютай чужбою. Таму на беларуска-расейскую еднасьць, для якой аб'ектыўна няма ніякіх рэальных падставаў, трэба глядзець як на фантом, падман зроку, як на «хлусьню ў імя дабра». Звычайна за такую хлусьню трымаюцца асабліва ўчэпіста, бо інтуітыўна прадчуваюць, што за ёю — прорва. Бо ўрэшце адзіная падстава гэтага адзінства — гэта тое, што за яго трымаюцца. І калі на Беларусі да ўлады прыйдуць не прамаскоўскія чыноўнікі, нас можа чакаць усенароднае «прозрение». Напэўна, адзінае цывілізаванае выйсьце з гэтага — паступовае разьвейваньне фантому. Я ня маю на ўвазе прапагандысцкі падбор сьведчаньняў усяго таго, *што нам зрабіла Расея*. Гэта мусіць быць напрацоўка не скрайняга й не эфэмэрнага, а пазытыўнага й рэальнага матэрыялу узаемапранікненьня дзьвюх суседніх культураў. Вядома, на кожны станоўчы факт тут прыйдзецца тысяча жахлівых. Вядома, беларускія інтэлектуалы толькі разганяюцца «ў іншы бок». Вядома, гістарычны «нэгатыў» успрымаецца многімі ледзь не як падстава нацыянальнага адраджэньня. Але Расея — добрая ці благая — ня мусіць больш быць сэнсам існаваньня Беларусі. Адна залежнасьць ня мусіць быць зьмененая на другую. А дзеля гэтага фантом адзінства ў сьвядомасьці мусіць саступіць месца стэрэатыпнаму ўяўленьню пра суседа, якое ня мае нічога агульнага з дэкляраванымі дагэтуль крэўнасьцю й чужбой.

# *Што здарылася?*

## Візыт Старшыні Рады БНР

Гэта адбылося 27 сакавіка ў часе адкрыцьця помніка братом Луцкевічам на могілках Роса. Спадар Язэп Сажыч меў прамову на ўрачыстым сходзе й выканаў фрагмэнт песьні «Сьпі пад курганам гэрояў». Акрамя госьця з Амэрыкі прысутнічалі й прамаўлялі кіраўнік беларускае рэдакцыі радыё «Свабода» сп. Вячаслаў Станкевіч, госьці з РБ, Беласточчыны й самой Вільні. Народу было шмат.

## У справе Беларускага Музэю

Будзе ці ня будзе адноўлены ў Вільні Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча?.. Магчымасьці грамадзкіх арганізацыяў у гэтай справе, бадай, вычарпаныя. Таварыства Беларускай Культуры атрымала адмоўны адказ Міністэрства культуры й асьветы. Як вядома, беларускі музэй існаваў у Вільні з 1919 году і быў буйнейшым зборам каштоўных экспанатаў зь беларускай гісторыі й культуры. Пасьля вайны ўлады Савецкай Летувы расфармавалі музэй: бібліятэка й архіў трапілі ў бібліятэку АН Летувы, а экспанаты — у летувіскі этнаграфічны музэй. У апошнія гады актывісты ТБК у друку й на сустрэчах з прадстаўнікамі ўладаў ЛР ня раз гаварылі пра патрэбу аднаўленьня музэю. Нарэшце ў Міністэрстве культуры й асьветы была створаная камісія, якая прыслала ў ТБК ліст наступнага зьместу: Міністэрства не ўхваляе аднаўленьня былога Беларускага Музэю й прапануе ТБК на грамадзкіх пачатках стварыць новы музэй. Пры гэтым міністэрства абяцае даць мэтадычную дапамогу, садзейнічаць, каб іншыя музэі давалі гэтаму музэю пакарыстацца сваімі экспанатамі, а таксама хадайнічаць перад уладамі пра фінансавую дапамогу гэтаму музэю. Па сутнасьці такі адказ ёсьць адпіскаю, бо ТБК вядзе гутарку менавіта пра аднаўленьне дзяржаўнае культурнае ўстановы на прафэсійных падставах, а не пра стварэньне аматарскага «кутка».

## Сапсаванае сьвята

Дакладней, самое ўрачыстае паседжаньне й канцэрт у Белай залі былога губэрнатарскага палацу ў Вільні да 75-х угодкаў БНР прайшлі нармалёва. Выступалі прадстаўнікі летувіскіх уладаў і загадчык аддзелу Міністэрства культуры зь Менску. Сапсаванае сьвята было ў гэты ж вечар на Летувіскай тэлевізіі, дзе зьнялі з эфіру загадзя абвешчаную сьвяточную беларускую праграму, прысьвечаную Дню Незалежнасьці. Гэтая 45-хвілінная праграма, падрыхтаваная беларускімі журналістамі ЛТ, складалася зь віншавальнага слова да беларусаў Віленшчыны, якое сказаў старшыня ТБК сп. Хведар Нюнька, зь некалькіх патрыятычных песень у выкананьні Данчыка і з фрагмэнту тэлеспэктаклю Галіны Дзягілевай «Выгнаньне ў рай».

## Адкрыты ліст

Рада ТБК даслала ў пэрыёдыкі Беларусі Адкрыты ліст наступнага зьместу:

«На жаль, усе нашыя спробы зьвярнуць увагу да сваіх праблемаў праз звароты да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусі й праз сродкі масавай інфармацыі маюць малы вынік. Таму мы зьвяртаемся непасрэдна да грамадзкасьці Беларусі, каб засьведчыць: беларускае насельніцтва шматнацыянальнай Віленшчыны — адзіная тут нацыянальная супольнасьць, якая ня мае дапамогі з боку ўраду дзяржавы свае нацыі.

Чарговая беларуска-летувіская сустрэча, што адбылася ў Вільні 16 сакавіка, нагадала нядаўнія застойныя часы. Яна рыхтавалася недзе ва ўрадавых кабінэтах пры зачыненых дзьвярох і для нас, беларусаў Віленшчыны, сталася поўнаю нечаканасьцю. Між тым у Вільню прыехала вялікая дэлегацыя беларускіх урадоўцаў на чале з В.Кебічам. Тут былі віцэпрэм'ер С.Брыль, дзяржсакратар па справах СНГ Ул.Заламай, міністар замежных справаў П.Краўчанка, начальнік пагранвойскаў Я.Бачароў, старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму З.Арцыме괁, кіраўнікі дзяржаўнага банку, мытні ды іншых установаў. Кіраўнікі ўрадаў дзьвюх дзяржаваў падпісалі пагадненьне аб вольным гандлі ды гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на 1993 год. Пра ўсё гэта 60 тысяч беларусаў Летувы даведаліся пасьля, калі справа была ўжо зробленая. На прэс-канфэрэнцыі на пытаньне журналістаў пра тое, ці абмяркоўвалася ў часе сустрэчы праблема нацыянальных меншасьцяў, В.Кебіч адказаў, што «Беларусь у гэтым сэнсе ня можа прад'явіць Летуве ніякіх прэтэнзіяў». Заўважым, што ніякіх кансультацый на гэты конт зь беларусамі Летувы кіраўніцтва Беларусі не праводзіла. Між тым нявырашаных праблемаў і непаразуменьняў у нашым рэгіёне сёньня шмат.

60-тысячнае беларускае насельніцтва ня мае свае інтэлігенцыі. Многія сотні тутэйшых беларускіх настаўнікаў, журналістаў, юрыстаў... былі да аднаго зьнішчаныя ў сталінскія часы, а ў наступныя гады такія кадры не аднаўляліся. Таму сёньня беларускае насельніцтва Віленшчыны вымушанае аддаваць дзяцей у расейскія, польскія ды летувіскія школы. Створаная пры Віленскім пэдунівэрсытэце катэдра беларусістыкі трымаецца на энтузіязме некалькіх самаахвярных людзей, велізарнай ахвярнасьці каштавала адкрыцьцё адзінае ў Вільні беларускае клясы, пад пытаньнем адкрыцьцё ў верасьні сёлета віленскай беларускай гімназіі. Недахоп спэцыялістаў сказваецца на тым, што беларусы Віленшчыны ня маюць свае рэгулярнае газэты. Хоць да вайны тут выходзілі дзесяткі беларускіх пэрыядычных выданьняў. У той час у горадзе працаваў Беларускі музэй, узнавіць працу якога сёньня без дапамогі зь Беларусі немагчыма... На вялікі жаль, калі гэтыя пытаньні і ўздымаюцца на міждзяржаўных перамовах, дык беларускі бок часта выяўляе тут недасьведчанасьць і незацікаўленасьць.

Яшчэ адна наша праблема — грамадзянства. Беларусы — адзіная нацыя ў Летуве, многія прадстаўнікі якой пазбаўленыя права прыватызаваць жыльлё. Гутарка йдзе пра тых, хто пераехаў зь Беларусі ў Летуву пасьля 1989 году. Пераважна гэта чарнобыльцы. Але паводле закону яны ня маюць права на атрыманьне грамадзянства і, адпаведна, на інвестыцыйныя чэкі, прыватызацыю сваіх кватэраў. Да прыкладу, тыя, хто пераехаў у Летуву з Расеі, такое права маюць, бо на тое йснуе спэцыяльнае міждзяржаўнае пагадненьне. Калі ж тыя жыхары Летувы, якія пасьля 1989 г. прыехалі зь Беларусі, прымуць беларускае грамадзянства, няма ніякіх гарантый, што ўрад Беларусі кампэнсуе ім страты ў часы ўсеагульнай прыватызацыі.

Гэта толькі асноўныя праблемы. Сочачы за ходам міждзяржаўных адносінаў, мы пераконваемся, хто кіраўніцтва Беларусі гэтых праблемаў альбо ня ведае, альбо ня хоча іх браць да галавы.

Пры кожным візыце кіраўнікі Расеі, Польшчы, Летувы сустракаюцца з прадстаўнікамі мясцовага расейскага, польскага, летувіскага насельніцтва. Летува збудавала буйнейшы культурны цэнтар у беларускіх вёсках Пеляса і Гервяты для некалькіх тысяч летувісаў Беларусі. Прэм'ер-міністар Летувы падпісаў загад пра выдзяленьне ў гэтым годзе 145 млн. талёнаў на будаўніцтва культурнага цэнтру для летувісаў Польшчы. У Летуве рэтранслююцца два расейскія і польскі тэлевізійныя каналы, але няма беларускага. Складваецца ўражанне, што кіраўніцтва РБ наўмысна адлучае нас ад жыцьця рэспублікі, спрыяючы хутчэйшай русыфікацыі, паланізацыі ды літуанізацыі карэннага беларускага насельніцтва Віленшчыны... Беларусы — адзіная нацыя ў Вільні, чыя колькасьць за апошнія гады зьменшылася...

Мы за тое, каб Вільня была адкрытая для Беларусі, каб тут адрадзілася беларускае нацыянальнае жыцьцё, каб былі адноўленыя беларускія гімназія, музэй, друк. Але бачыць Бог, што адных нашых высілкаў і дапамогі летувіскага ўраду для гэтага недастаткова».

# *З газэт*

## Пашпартных беларусаў становіцца меней

Паводле дадзеных дэпартамэнту статыстыкі, летась у Летуву зь Беларусі пераехала на сталае жыхарства 744 чалавекі (з Расеі — 3440, з Украіны — 621, з Захаду, пераважна зь Нямеччыны, — 434). У 1991 годзе гэтая лічба была большая — 1285 чалавек (адпаведна: 6329, 1229, 1119). З усіх, хто прыехаў летась, беларусаў — 417 (расейцаў — 2496 ці 40%, летувісаў — 2103 ці 34%, украінцаў — 476).

Зь Летувы на Беларусь летась на стала выехалі 6206 чалавек (у Расею — 15757, на Ўкраіну — 4236, на Захад — 1531). У 1991 годзе гэтая лічба была меншая — 4072 чалавекі (адпаведна: 9746, 2754 і 2618). З тых, хто выехаў на Ўсход летась, беларусаў — 3475 чалавек (расейцаў — 16198, украінцаў — 3798, летувісаў — 1366.

Увогуле ў пачатку гэтага году ў Летуве было 3751 тысячаў жыхароў, альбо на 10 тыс. меней, чым у 1991 годзе. Зь іх 3016 тыс. летувісаў, 326 тыс. расейцаў, 263 тыс. палякаў, 59 тыс. беларусаў, 40 тыс. украінцаў, 6919 габрэяў.

# Што беларускага чытаюць у Летуве?

**У другім квартале гэтага году ў Летуве зь Беларусі можна было выпісаць толькі тыя газэты й часопісы, якія трапілі ў маскоўскі каталёг Роспечати. Паводле дадзеных Летувіскай Пошты, жыхары Летувы выпісалі 933 асобнікі сарака газэтаў і часопісаў. На першым месцы — часопісы «Радиолюбитель» (504 падпісчыкі ў 58 населеных пунктах) і «Работніца і сялянка» са сваім рускамоўным дадаткам для гаспадыняў (145 падпісчыкаў). Даволі папулярныя газэты «Детектив» (29), «Пресс-болл» (25), «Советская Белоруссия» (24), «Ласковый май» (20) і г.д. Чатыры чалавекі выпісалі «Звязду», столькі ж — часопіс «Беларусь». На апошнім месцы — часопіс «Трение и износ», адзін асобнік якога нехта выпісаў на адзін месяц. Па выніках гэтага своеасаблівага «гіт-параду» можна ўявіць сабе, хто з чытачоў у Летуве найбольш зацікаўлены ў сувязях зь Беларусяй. На першым месцы — майстры-радыёаматары й хатнія гаспадыні; на другім — заўзятары футболу й поп-музыкі, аматары паказытаць сабе нэрвы дэтэктывам ці разьвярэдзіць душу настальгічным успамінам аб савецкай Беларусіі... Дзякуючы дамаганьням віленскіх беларускіх арганізацыяў, з трэцяга кварталу ў Летуве адноўленая падпіска на «ЛіМ», «Свабоду», «Бярозку», «Спадчыну» —, усяго 13 назваў найбольш папулярных беларускіх выданьняў.**

Тутэйшы чытач

# ПАДСТАВОВЫЯ ПЫТАНЬНІ

Вацлаў Гавэл

**Месяц таму прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл сказаў у парляманьце сваe краіны вялікую прамову пад назвай «Тры гады — тры дзеі драмы». Гэта агляд часу, які настаў пасьля камунізму, а таксама — прэзыдэнцкая праграма. Мы зьмяшчаем толькі невялікі фрагмэнт гэтае прамовы. Пэўная тыповасьць сытуацыяў робіць высновы Гавэла ўнівэрсальнымі для ўсіх краінаў посткамуністычнага сьвету.**

Зь лістапада 1989 г. прыярытэтам усіх нашых урадаў, парлямантаў ды іншых органаў улады былі сыстэмныя зьмены эканомікі. У рэчышчы гэтых задачаў не было, натуральна, часу спакойна засяродзіцца над канцэпцыяй некаторых рашэньняў, што выходзяць за рамкі эканомікі й актуальнай палітычнай сытуацыі.

Праз усё жыцьцё я крытыкаваў пыху сучаснага чалавека, які мяркуе, што ягоны розум здольны агарнуць усё, комплексна зразумець жыцьцё й сьвет, прыдумаць для іх лепшыя формы, выснаваць з гэтага якісь плян на будучыню, пераказаць яго дзяржаве як найлепшаму гаранту яго рэалізацыі і ўрэшце — нягледзячы на аб'ектыўную хаду жыцьця — накінуць грамадзтву. Вось чаму я не выказваюся за цэнтральнае плянаваньне й не лічу дзяржаву тым празарлівым суб'ектам, які найлепш ведае, чаго патрабуе й на што здатнае жыцьцё.

Думаю толькі, што ў жыцьці нацый і грамадзтваў бываюць моманты вялікіх, гістарычных паваротаў, якія проста вымушаюць да прадумваньня прыроды крыніц і магчымасьцяў разьвіцьця тых супольнасьцяў, пра іх гаспадарчую тоесасьць, пра эканамічныя інструмэнты, пры дапамозе якіх яны могуць разьвівацца найлепей. Хіба ж людзі, нацыі й грамадзтвы не ствараюць дзяржавы ўласна дзеля таго, каб яны дапамагалі разьвязваць праблемы, якія не ўдаецца разьвязаць без усеагульнага паразуменьня й супрацоўніцтва?

Я перакананы, што й мы цяпер знаходзімся ў сытуацыі пераломнай і мусім задумацца, дзе ўласна мы ёсьць, якія маем шанцы й на што мусім разьлічваць. Гэта не задача толькі для ўраду й зь якой урад мог бы даць сабе рады сам. Трэба чагосьці большага: стварэньня ўмоваў, якія б спрыялі канцэптуальнай дзейнасьці. Гэта значыць — клімату для ініцыятывы асобаў, незалежных навуковых пляцовак, гаспадарчых суб'ектаў, зацікаўленай грамадзкай думкі, сродкаў інфармацыі, урэшце прадстаўнічых органаў і дзяржаўнай адміністрацыі — да стратэгічнага мысьленьня й роздуму над тым, што на агульную думку й на далейшую мэту ёсьць сэнсоўнае, а што не.



Існуюць пытаньні, ад якіх мы папросту не ўцячэм. Напрыклад: ці будзем мы пераважна транзытнай краінай і дзеля гэтага мусім займацца мадэрнізацыяй аэрадромаў, пабудовай аўтастрадаў, рыхтавацца да будаваньня сыстэмы хуткіх чыгунак і ўжо сёньня разьвіваць адпаведную інфраструктуру? Ці пойдзем дарогай, якая хутка прывядзе да наднацыянальных, зьінтэграваных структураў, альбо таксама — у духу некаторых прагнозаў сусьветнага разьвіцьця — нам трэба больш імкнуцца да нейкай рэгіянальнай аўтанамізацыі гаспадарчага жыцьця?

Да якой ступені мы паставім на турыстыку й будзем падтрымліваць усё, што можа зрабіць зь яе крыніцу карысьці? Ці можа будзем перадусім падтрымліваць малых і сярэдніх вытворцаў і прадпрымальнікаў? Якія магчымасьці разьвіцьця маюць розныя нашы вытворчасьці?

Гутарка йдзе таксама пра тое, што мы думаем пра разьвіцьцё нашае энэргетыкі. На якія крыніцы энэргіі мы павінны больш арыентавацца, а на якія менш? Якім чынам будзем падтрымліваць усё, што спрыяе ашчаджаньню энэргіі? Ці выкажамся за дэцэнтралізацыю й канкурэнцыю яе крыніц? У якім тэмпе — у залежнасьці ад агульнай канцэпцыі энэргетыкі — будзем абмяжоўваць здабычу бурага вугалю ў паўночначэскай акрузе, а таксама ліквідаваць тамтэйшыя цеплавыя электрастанцыі? Здаецца мне, што ні на воднае з гэтых пытаньняў мы ня мусім адказваць у адрыве ад цэльнай канцэпцыі гаспадарчай — дый энэргетычнай — будучыні нашай краіны.

Тое, што камунізм паставіў на галаву ўсю нашу гаспадарку, і тое, што мы будуем эканоміку ў рамках новае дзяржавы, ставіць нас, як мяркую, перад задачай узбагачэньня нашай гаспадарчай рэформы гэткім вось прадумваньнем. Я вяртаюся такім чынам да маёй старой тэмы: няма гульні там, дзе няма правілаў. А ня могуць быць добрымі правіламі тыя, якія не вырастаюць з пэўнай канцэпцыі самога сэнсу гульні — у нашым выпадку з шырэйшай адказнасьці за будучы лёс нашага грамадзтва.

Карані гэтых правілаў ляжаць таксама ў сфэры маральнасьці. Зрэшты без адмысловага маральнага клімату нават найлепшыя правілы маюць мала шанцаў на тое, што будуць выкананыя.

**Афарызмы**

# Загадкавая славянская душа

Станіслаў Страціеў

Славянская душа — гэта энігма.

Так, баўгары славяне. Паўднёвыя. Можа, нават крыху больш паўднёвыя, чым трэба.

Мы робім усё, каб нічога не рабіць.

Баўгарскі кансэнсус складаецца з васьмі мільёнаў «супраць».

Цяпер роскві\u0442 сэксуальнай рэвалюцыі — на іншыя нам не хапае патэнцыялу.

Але жыхары Клісуры, якія калісьці станавіліся маскоўцамі, цяпер становяцца тэхасцамі.

Мара баўгараў — ня быць баўгарамі.

Працаўнікі мараць пра «шведзкі стол».

Пралетары ўсіх краін зьяжджаюцца ў Амэрыку.

Прывід блукае па Баўгарыі — прывід Эўропы.

У праграме ВНУ новая дысцыпліна — мыцьцё талерак.

Каб падрыхтаваць нашых студэнтаў да Канады.

Калі 1300 гадоў назад мы пераплылі Дунай, а ня Рэйн, — ня трэба цяпер скардзіцца, што замест фольксвагена маем фальклёр.

Баўгарская прымаўка: быць у Рыме й не забіць папу рымскага.

Баўгарскі народ — адзіны народ, які прыгняталі два разы, а вызвалялі пяць разоў.

Загадкавую славянскую душу можна зразумець толькі тады, калі яе вырваць.



Пераклад Вэнэты Георгіевай-Козаравай (Габрава) з кнігі афарызмаў Станіслава Страціева «Баўгарская мадэль» (Българският модел. ИК «Иван Вазов». София, 1991).

© 1988 Здымак Анатоля Клешчука

дэбют

# СЭРЦА ПАДКАЗВАЕ

Эдгар Алан По

Праўда! Я быў і застаюся нэрвовы, вельмі, нават жахліва нэрвовы; але ж чаму вы кажаце, што я — вар'ят? Хвароба абвастрыла мае пачуцьці — ані не паслабіла, не прытупіла іх. Найвастрэйшае з усіх было пачуцьцё слыху. Я чуў усё, што адбывалася як на небе, гэтак і на зямлі. Я чуў ці ня ўсё, што чынілася ў пекле. Дык няўжо ж я — вар'ят? Паслухайце й зьвярніце ўвагу, як развážліва я сам магу апавесьці ўсю гісторыю.

Нельга сказаць, як упершыню гэтая йдэя прыйшла мне ў галаву, але, прычапіўшыся аднаго разу, яна не пакідала мяне ні ўдзень, ні ўночы. Тут не было ні намеру, ні абвостранае жарсьці. Я любіў гэтага старога. Ён аніводнага разу не зрабіў мне нічога кепскага, не пакрыўдзіў мяне. Я не зважаў на ягонае золата. Здаецца, прычынаю ўсяго было ягонае вока, менавіта яно! Вока, бледнае й блакітнае, зацягнутае плеўкаю, было падобнае да вока грыфа. Калі ж яно натыкалася на мяне, мая кроў халадзела; гэтак спакваля я надумаў забіць старога, каб назаўжды пазбавіцца гэтага вока.

Вось і ўся рахуба. Мяркуеце, я — вар'ят? Вар'яты нічога ня цямяць. Каб жа вы бачылі мяне, бачылі, як адмыслова я ўсё рабіў — зь якою перасьцярогай, зь якою прадбачлівасьцяй, зь якім удаваньнем распачаў я работу! Ніколі я ня ставіўся да старога так добра, як за тыдзень перад забойствам. І штоночы, блізу дванаццатае, я падымаў клямку ягоных дзьвярэй і прачыняў іх — ціха-ціха! А пасьля, зрабіўшы дастатковую для свае галавы шчыліну, я скіроўваў туды добра зачынены, каб ня бліснула сьвятло, зацемнены ліхтар, а ўсьлед ужо засоўваў галаву. Вас ахапіў бы сьмех, калі б пабачылі, як умела я прасоўваў яе. Я сунуў яе паволі, зусім паволі, каб не патурбаваць старога ў сьне. Цэлая гадзіна йшла на тое, каб памясьціць маю галаву ў шчыліне так, што я мог бачыць старога на ложку. Га!.. Хіба ж мог вар'ят дзеяць гэтак развáжліва? А калі мая галава трапляла ў пакой, я расчыняў ліхтар з асьцярожнасьцяй, надзвычай асьцярожна (абы ня рыпнулі петлі) расчыняў яго, каб просты ценькі праменьчык спадаў на хіжае вока. І гэта я рабіў цягам сямёх доўгіх начэй — акурат апоўначы, — але вока, здавалася мне, заўсёды было заплюшчанае, чаму й не выпадала зьдзейсьніць задуму, бо ж дадзяваў мне ня сам стары, але ягонае Паганае Вока. І штораніцы, калі бралася ўжо на дзень, я сьмела йшоў у спачывальню й гучна гаманіў зь ім, па-прыяцельску называючы яго па імені й дазнаючыся, як прамінула ноч. Гэткім парадкам, бачыце, яму належала быць вельмі праніклівым чалавекам, каб запасочыць, што кожнае ночы, рыхтык а дванаццатай, я зазіраў да яго, пакуль ён спаў.

На восьмую ноч я быў асабліва пільны, прачыняючы дзьверы. Хвілінная стрэлка гадзіньніка рухалася нашмат хутчэй, чымся мая рука. Ніколі дагэтуль не адчуваў я гэткае патужнасьці собскіх сілаў, свае празорлівасьці. Я ледзь стрымліваў пачуцьцё трыюмфу. Адно падумаць, што я прыходзіў, спакваля расчыняў дзьверы, а стары нават у сьне ня бачыў маіх таемных учынкаў ды задумаў. Уявіўшы гэта, я ажно пырснуў сьмехам, а ён, магчыма, пачуў мяне, бо раптам заварушыўся, быццам зьлякаўся чагось. Цяпер, мабыць, падумаеце, што я адступіўся — але зусім ня гэтак. Апраметная цемра ахінала ягоны пакой (ён баяўся злодзеяў і шчыльна зачыняў аканіцы), таму я ведаў, што ён ня ўгледзіць шчылінку ў дзьвярох, і патроху налягаў на іх.

Я прасунуў у спачывальню сваю галаву і важыўся ўжо адчыніць ліхтар, але, калі мой пястук прасьлізнуў па бляшанай засаўцы, стары ўскочыў у ложку, выгукнуўшы: «Хто гэтта?»

Я застаўся нерухомы й маўчаў. Цягам цэлае гадзіны я не варушыўся, але не пачуў тым часам, як ён зноўку лёг. Ён усё яшчэ сядзеў на ложку, услухоўваўся, дакладна гэтак жа, як я ноч у ноч прыслухоўваўся да магільнае цішыні пакоя.

Трохі пазьней я пачуў стогн, я ведаў, што стогн гэты спароджаны бязьлітасным страхам. Гэта ня быў енк пакуты або скрухі, — ох, не! — гэта быў ціхі прыдушаны енк, што падымаецца з глыбіні душы, прасякнутай жахам. Я добра ведаў той гук. Часьцяком уначы, акурат апоўначы, калі ўсё сьпіць, ён вырываўся з маіх грудзей, паглыбляючы сваім сьмяротным рэхам тыя страхі, што шкуматалі мяне. Я ўяўляў, што адчувае стары, і спачуваў яму, хаця й пасьмейваўся ў душы. Я ведаў, што ён ня спаў ужо пасьля першага нязначнага шуму, які змусіў яго заварушыцца ў пасьцелі. Жахі ўсё мацней сьціскалі яго ў сваіх абцугох. Ён намагаўся думаць пра іх: «Гэта нішто іншае, як вецер у коміне, гэта адно мышына праскочыла па падлозе», — альбо: «гэта проста цвыркун крыху пасакатаў». Ведама, ён сіліўся суцешыць сябе гэткімі прыпушчэньнямі, але ўсё дарэмна. Усё дарэмна, бо Сьмерць, набліжаючыся да яго, падбіралася чорным ценем і ахінала сваю ахвяру. І якраз немінучае ўзьдзеяньне бесьцялеснага ценю спрычынілася да адчуваньня ім (хаця ён ня чуў і ня бачыў), да адчуваньня таго, што мая галава тут, у пакоі.

Доўга й цярпліва прачакаўшы, я так і не пачуў, ці лёг ён зноўку; тады й наважыўся прачыніць ліхтар — зрабіць ценькую-найценькую шчылінку. І я прачыніў яго — гэтак таемна-найтаемна, што вы не дасьцё веры, — і нарэшце шпурнуўся са шчылінкі нязыркі, бы павучыная ніць, праменьчык і апынуўся на хіжым воку.

Яно было расплюшчанае, шырока-найшырока расплюшчанае, і я шалеў, пазіраючы на яго. Я надзвычай добра бачыў яго — невыразна блакітнае, зацягнутае агіднай плеўкаю, якая ледзяніла мяне да глыбіні душы; але праз цемру я ня мог пабачыць ні твару, ні цела старога, бо нясьведама скіраваў прамень рыхтык на тое клятае месца.

Хіба ж я не казаў вам, што прыманае за вар'яцтва ёсьць проста празьмернай праніклівасьцяй? Я пачуў увушшу ціхі, прыглушаны, прудкі зык, гэткі, што робіць гадзіньнік, завінуты ў вату. Безумоўна, я ведаў гэты гук — білася сэрца старога. Тхканьне распаліла ўва мне лютасьць гэтак жа, як пошчак бубнаў узбуджае жаўнераву адвагу.

Але я ўсё яшчэ стрымліваў сябе й не варушыўся. Я ледзьве дыхаў, трымаючы застыглы ў руцэ ліхтар; сіліўся ня зводзіць прамень з вока. Тым часам агіднае тхканьне сэрца пачасьцілася. Яно ўсё нарастала й нарастала, рабілася штосэкунды прудчэйшае й гучнейшае. Страх старога, пэўне, стаў надзвычайны. Біцьцё гучнела, паслухайце, гучнела з кожным імгненьнем! Ці зважаеце вы на гэта? Я казаў, што я — нэрвовы, сапраўды гэткі. І тады, глыбокаю ночай, спасярод вусьцішнае цішы старога дому, гэткі дзіўны шум пазбавіў мяне змогі кантраляваць страх. Адылі колькі хвілінаў я ўтаймоўваў сябе. Але біцьцё гучнела й гучнела! Мне здавалася, што сэрца можа разарвацца. І цяпер новая трывога ахапіла мяне — гук маглі пачуць суседзі! Прабіў час старога! З пранізьлівым крыкам я расчыніў ліхтар і ўскочыў у пакой. Ён выгукнуў адзін раз, толькі адзін раз. Вокамгненна я сьцягнуў яго на падлогу й прыдушыў цяжкім ложкам. Пасьля я вясёла сьмяяўся, уважаючы, што ўсё ўрэшце зроблена. Але на працягу нейкага часу сэрца яшчэ неяк прыглушана тхкала. Гэта, тым ня менш, не турбавала мяне; біцьця не пачулі б праз сьцяну. Нарэшце яно сьціхла. Стары быў мёртвы. Я адсунуў ложак і агледзеў труп. У ім зусім не было жыцьця. Я прыклаў руку да ягонага сэрца й трымаў яе так колькі хвілінаў. Кроў не пульсавала. Ён быў назаўжды пазбаўлены жыцьця. І я больш не мітрэнжыўся праз ягонае вока.

Калі вы ўсё яшчэ лічыце мяне вар'ятам, дык пераканаецеся ў собскай абмылцы, даведаўшыся пра мудрыя перасьцярогі, выкарыстаныя мною, каб схаваць цела. Ноч сыходзіла, і я хапатліва, але бяз шуму, працаваў. Перадусім я разабраў труп: адрэзаў галаву, рукі й ногі.

Пасьля я выняў з падлогі тры масьнічыны й паклаў усё між брусоў. А тады ўставіў дошкі назад гэтак разумна й вынаходліва, што ніякае чалавечае вока, нават ягонае вока, ня выявіла б чагось падазронага. Ня трэба было нічога вымываць — нідзе аніводнае плямкі, аніводнае кропелькі крыві. Я быў вельмі акуратны. Усё засталося ў місе — га-га!

Калі я скончыў работу, была чацьвертая — цямнота стаяла, як апоўначы. Адразу па тым, як звон прабіў чацьвертую, пачуўся стук у парадныя дзьверы. Я спусьціўся адчыніць іх са спакоем у душы — чаго мне цяпер было баяцца? Увайшлі трое мужчынаў і зь бездакорнай ветлівасьцяй адрэкамэндаваліся афіцэрамі паліцыі. Крык уначы пачуў сусед; вынікла запасочаньне, што адбылося злачынства; інфармацыя была перададзеная ў пастарунак, і яны (афіцэры) пасланыя абшукаць дом.

Я ўсьміхнуўся — чаго мне было баяцца? Я павітаў іх. Сказаў, што сам выгукнуў у сьне. Стары, прыпомніў я, зьехаў на вёску. Я паказаў ім увесь дом. Я прасіў іх агледзець, агледзець добра. Я прывёў іх нарэшце ў ягоны пакой. Я паказаў ім ягоныя ашчадкі, у захаванасьці, нечапаныя. У захапленьні ад свае ўпэўненасьці я прынес у пакой крэслы й папрасіў іх тут адпачыць, а сам з шалёнаю сьмеласьцяй ад дасканалага трыюмфу паставіў сваё крэсла якраз там, дзе спачываў труп ахвяры.

Афіцэры былі задаволеныя. Мае дзеяньні пераканалі іх. Я быў надзвычай нязмушаны. Яны сядзелі й гаманілі пра нешта звычайнае, і я таксама штосьці бадзёра казаў ім. Але неўзабаве я адчуў, што бляднею, і захацеў, каб яны як мага хутчэй пайшлі. У мяне балела галава й, здаецца, стаяў звон увушшу; але яны ўсё сядзелі й балбаталі міжсобку. Звон зрабіўся выразьнейшы, ён не зьнікаў і стаў яшчэ большы. Я загаманіў вальней, каб пазбавіцца хваляваньня, але ён не сьціхаў — і нарэшце я зразумеў, што шум быў не ў маіх вушох.

Няма сумлеву, цяпер я надта спалатнеў, але безупынку гаварыў падвышаным голасам. Адылі гук павялічваўся — што я мог зрабіць? Гэта быў ціхі, прыглушаны, прудкі зык, вельмі падобны да зыку, што робіць гадзіньнік, загорнуты ў вату. Я цяжка дыхаў, але афіцэры яшчэ нічога ня чулі. Я гаварыў больш напорыста й шалёна, але шум няўхільна нарастаў. Я падняўся і ўсчаў спрэчкі аб рознай драбязе, голасна плявузгаў і разьюшана жэстыкуляваў, але шум няўхільна нарастаў. Чаму б ім не сысьці? Я хадзіў, тупаючы, узад і ўперад, нібы раззлаваны іхнымі заўвагамі, але шум няўхільна нарастаў. О, Божа! Што я мог зрабіць? Я шалеў — я халераваў — я лаяўся! Я круціў крэсла, на якім дагэтуль сядзеў, і соўгаў яго па дошках, але гук усё большаў і большаў. Ён гучнеў, гучнеў, гучнеў! А паліцыянты па-ранейшаму з прыемнасьцяй балбаталі і ўсьміхаліся. Ці маглі яны ня чуць? Усемагутны Божа, не, не! Яны чулі, яны падазравалі, яны ведалі, яны сьмяяліся з майго страху, — гэтак я думаў і гэтак я думаю. Не магло быць нічога горшага за гэтую пакуту! Трэба пакласьці крэс гэтым нясьцерпным кпінам! Я ня мог больш трываць іхныя крывадушныя ўсьмешкі! Я адчуваў, што мушу або закрычаць, або памерці! Во цяпер зноўку!.. Гучней! Гучней! Гучней! Гучней!..

— Паскуднікі! — залямантаваў я. — Годзе ўдаваць! Я прызнаюся; адарвеце масьнічыны!.. Тут, вось тут! Гэта б'ецца ягонае агіднае сэрца!



Пераклаў з ангельскае Юрась Бушлякоў. Крыніца: Edgar Allan Poe. Tales of Mystery and Imagination. London, Grant Richards.

НАША НІВА

**У Рэспубліцы Беларусі, краінах СНГ і Балтыі «Нашу Ніву» можна выпісаць у кожным аддзяленьні сувязі. Індэкс 63125.**



*дэбют*

# АДРАДЖЭНЬНЕ Й КАНКІСТА

**Гэты сьвяты чын, што ўжо стагодзьдзе вядомы на Беларусі пад назваю «Адраджэньне», лепш было б менаваць іншым словам, менш паэтычным, але больш дакладным, — Самаўзнаўленьне. Бо Адраджэньне — гэта не ідэалёгія й не культурны працэс, якія пад ім часта разумеюць, але барацьба за йснаваньне беларускай ідэалёгіі й культуры.**

Адраджаецца не дзяржава, а грамадзтва. Адраджэньне фармуе грамадзян. Больш дакладна — летуценьнікаў, што мараць пра Сьветлую Будучыню Беларушчыны. Мэта Адраджэньня — падтрымліваць колькасны балянс носьбітаў нацыянальнае сьвядомасьці, патрэбны дзеля захаваньня Беларушчыны. І галоўнае тут ня якасьць, а колькасьць. Таму дух Адраджэньня не спрыяе фармаваньню індывідуалізму. У сваю чаргу Адраджэньню бракуе авантурыстаў.

Сродак Адраджэньня — літаратура. Па сваёй сутнасьці яна — літаратура сэнтымэнталізму, які прадыктаваны інстынктам самазахаваньня нацыі. Тут культывуюцца пачуцьці гаротнасьці, ахвярнасьці ды пакутніцтва. Дзеля эстэтыкі Адраджэньня Хатынь мае большую вартасьць, чым Грунвальд. Адраджэнскі сэнтымэнталізм здольны ня толькі вербаваць нэафітаў ("агульная крыўда"), але, у нейкай ступені, ён здольны і бараніць ("ляжачага ня б'юць").

**Сучасны гістарычны этап характарызуецца больш спрыяльнымі ўмовамі для беларусаў. Прысьпеў час Новай Культурнай Сытуацыі, ці Канкісты.**

**Канкіста фармуе цяпер новую літаратурную мову ды эстэтыку (найбольш шчыра гэта выяўляецца ў перакладчыцкім працэсе). І галоўнае, яна фармуе Новы Патас — Патас Канкісты.**

**Пасьля стагодзьдзяў засяроджанасьці ў сабе Беларушчына памкнулася вонкі.**

Напярэймы сэнтымэнталізму йдзе рамантызм — ня столькі літаратурны стыль, колькі новая форма грамадзкай сьвядомасьці.

**Канкіста скіраваная не на стварэньне новае формы, але на аваладаньне незасвоенай, — не дзеля формы, а дзеля Канкісты — засваеньня як мага большага жыцьцёвага абсягу дзеля сваёй культуры. Канкіста — не дзеля самасьцверджаньня, але дзеля жыцьцясьцьверджаньня. Канкіста — зьява дзёрзкая ды імпэтная.**

Заўважу, што цяперашняе палітычнае ды культурнае жыцьцё знаходзіцца збольшага ў рэчышчы Адраджэньня. Гэта аб'ектыўная патрэба сучаснасьці, бо насельніцтва Беларусі ня стала пакуль беларускім грамадзтвам. Таму й цяпер найбольш дзейсныя мэтады Адраджэньня.

Тая ж частка нацыянальнае інтэлігенцыі, што крочыць сёньня пад сьцягам Канкісты, павінна падрыхтаваць глебу дзеля непазьбежнага пераходу ўсёй Беларушчыны ў новую якасьць, — калі напярэймы Новай Культурнай Сытуацыі прыйдзе Новая (зь вялікай літары) Палітычная Сытуацыя. Канкістадоры ўжо цяпер пашыраюць культурныя абсягі дзеля чыннага й творчага жыцьця беларускай нацыі.

**Але як далёка ні сягаў бы кожны ў сваёй Канкісьце, трэба памятаць запавет бацькі нашага Адраджэньня: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!» Шчыльнае гуртаваньне вакол мовы ёсьць сакрэтам жыцьцяздольнасьці Беларушчыны й Беларусаў.**

**Сяргей Шыдлоўскі**

(Наваполацак)

# Чаканьне Лады

Андрусь Антончык даслаў з Масквы свой ад рукі напісаны зборнік паэтычных мініяцюраў «Чаканьне Лады». Андрусь Антончык зрабіў свой зборнік у чвэртку машынапіснае старонкі й прашыў яго жалезнай сашчэпкай. Атрымалася 9 старонак. На тытульнай старонцы Андрусь Антончык напісаў: *Андрусь Антончык. Чаканьне Лады. Паэтычныя мініяцюры. Масква. 1992 г.* На перадапошняй старонцы Андрусь Антончык напісаў: *наклад 10 паасобнікаў, пранумараваных аўтарам.* На самай апошняй старонцы Андрусь Антончык паставіў № 10. Прычым 10 ён накрэсьліў чырвоным алоўкам. Такім чынам, перад намі *паасобнік, пранумараваны аўтарам.* Усяго тут 7 (сем) безназоўных мініяцюраў па тры радкі кожная. Найбольш удалая зь іх апошняя:

Пакінуты ўсімі
Множуць самоту
Люстэркі

Пасьля яе я перачытваў зборнік Басё. Мне здалося, што Андрусь Антончык пазычыў сваю мініяцюру ў Басё. Але варта было перачытаць, каб зразумець, што я памыліўся. Мне адразу трэба было чытаць нават не Алеся Разанава, а Ўладзімера Арлова ці Л.Галубовіча, ці А.Глёбуса ці М.Шайбака... Гэтак зусім непрыкметна беларуская літаратура перажыла цэлы этап у сваім разьвіцьці, які я назваў бы этапам парадаксальнага сузіраньня рэчаіснасьці. Спробы ўзьдзеяньня на жыцьцё праз паэзію так надакучылі Разанаву, што ён, кіруючыся традыцыямі японскага сузіральніка пачаў сузіраць сам. Гэта ціхі бунт супраць горкаўскае традыцыі ператваральнікаў жыцьця, бунтаўнікоў супраць прыроды й вечнасьці, пра якую сьледам за А.Бярдзяевым так натхнёна гаворыць Барыс Парамонаў. Ціхі бунт аднак насьледаваў Басё толькі фармальна ці нават толькі настраёва. Эстэтызаваныя філязафэмы, называныя мініяцюрамі, пункцірамі, вэрсэтамі, трохрадкоўямі... у творах Арлова й Галубовіча вельмі хутка знайшлі свой абсалют у выглядзе голага парадоксу, пра які пісаў у сваім маніфэсьце сюррэалізму А.Брэтон, кажучы пра прыцягненьне адлеглых сутнасьцяў. Агаліўшы парадокс, гэтыя творцы па сутнасьці разбурылі сузіральную традыцыю Басё й вярнуліся да ператтваральнае традыцыі Горкага. Эстэтызаваныя філязафэмы ў такім выглядзе ўжо можа ствараць любы пісьменны чалавек у неабмежаваных колькасьцях. Відмо літаратуры перастае быць літаратурай, а застаецца толькі відмом. Гэтак выхаваная ў нядаўнія часы падсьвядомасьць працівіцца «некантруктыўным» падыходам да творчасьці. Гэтак непрыкметна літаратура ўцякае ад раскрывальнікаў сваіх таямніц, ад тых, хто таямніцы сьвядомасьці прагне зрабіць сваім рабочым інструмэнтам. Гэтак вяртае сабе актуальнасьць парадаксальная для канструктара Брусава фраза пра тое, што паэзія «есть вещь нерассудочная». Гэтак непрыкметна ў беларускай літаратуры мінае ці ня першая этапная спроба выбрацца з зачараванага кола сацыялістычнага рэалізму. І чаканьне Лады працягваецца.

Аглядальнік

# *ПАШТОВАЯ СКРЫНКА*

***А.М. зь Віцебску.*** Пасьля таго, як «НН» абвясьціла паэтычнае спаборніцтва на лепшы сучасны верш пра Вільню, Вы — другі, хто даслаў нам свой твор. Магчыма, мы пасьпяшаліся з гэтым конкурсам. Здымкі скарыстаем.

***У.М. зь Менску.*** Калі Вы не адмовіцеся, мы надрукуем вашыя эсэ й вершы ў іншым выданьні (наш тэлефон у Вільні 22-41-61). Спэцыфіка «Нашай Нівы» — у пошуку такіх літаратурных твораў, якія не нясуць на сабе адбітку сьвядомасьці савецкага часу. Прычым гутарка зусім не пра пазыцыю аўтара адносна былога рэжыму. Можна быць апалягетам гэтага рэжыму, але пры гэтым — проста беларускім, без дадатку «савецкі», аўтарам. І можна наадварот — пісаць зьнішчальныя вершы пра камуністаў, а так і застацца беларускім савецкім паэтам. Усё вырашае эстэтыка.

***Падляшуку зь Беластоку.*** На жаль, допіс ананімны, а мы за Вашых «халуёў» адказваць ня будзем, бо ўпэўненыя, што ім яшчэ далёка да такіх самых, але іншае арыентацыі. Урэшце, лепш будаваць сваё, чым змагацца з тымі, хто будуе штось іншае. Перамогуць не балісты, а вышыня й моц нашых муроў.

***В.А. з Магілёву.*** У шматслоўі й пераказе вядомых думак Ваша канкрэтная думка губляецца. Пастарайцеся быць арыгінальным і не забывайцеся пра «сястру таленту», — усё астатняе ў Вас ёсьць.

**На выданьне «Нашае Нівы» ахвяравалі:**

*Альбіна Чапкоўская — 500 р.*
*Алесь 'Жлутка — 50 р.*
*Роза Ганчарова — 2000 tl.*
*В. і М.Пашкевічы — $ 50*

**НАША НІВА** Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. **Рэдакцыйная Рада:** Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глёбус, Алег Дзярновіч (афіцыйны прадстаўнік рэдакцыі ў Менску), Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа (адказны сакратар). **Заснавальнік і выдавец** Павал Жук. **Адрасы Рэдакцыі:** Вільня, вул. Жыгімонта 12/2, тэл. 224161, **для допісаў:** 2041 Вільня а/с 2082, або 220123 Менск а/с 71. Афсэтны друк.


**ПАДПІСКА** У межах Рэспублікі Беларусі *Нашу Ніву* можна выпісаць у любым аддзяленьні сувязі. Індэкс: 63125. У пытаньнях падпіскі й рассылкі за межы Беларусі й СНГ зварачайцеся на адрас: Siarhiej Šupa, Vasaros 7, 2055 Vilnia, Lithuania.